




Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі

# МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ.
Двухтыднёвая часопіс Сялянскай Моладзі.

Менск | № 1 | 1925 г.

**Кожны комсамолец, кожны малады земляроб— павінен быць падпісчыкам на сваю часопіс „МАЛАДЫ АРАТЫ“.**

## Наша слова да сялянскай моладзі.

Пасьля паўтарамесячнага перапынку выданьня газэты *„Малады Араты“ мы выпускаем першы нумар часопісі.*

Маленькая газэтка „Малады Араты“ знаёма многім вясковым комсамольцам. Яна выхавала не адну сотку сялянскай моладзі.

Яе рост быў рухавіком росту чытачоў.

Аднак краіна йдзе наперад. Падымаецца наша прамысловасьць і сельская гаспадарка. Павышаецца й культурнасьць краіны.

Цяпер няма працоўнага, які-б ня прымаў удзелу ў гэтай вялікай перабудове Савецкага Саюзу на социялістычны лад.

Разьвіваецца культурная і экономічная творчасьць працоўных пад кіраўніцтвам загартованай у баёх Комуністычнай партыі.

Наша рэспубліка цяпер як-бы муравейнік, дзе адбываецца вялізарная работа па соцыялістычнаму будаўніцтву. І наша часопіс „Малады Араты“ будзе зьяўляцца тэй маленькай частачкай, якая творыць работу ў гэтай бязьмерна вялікай справе.

*„Малады Араты“* будзе разам з сваім чытачом—сялянскім хлапцом і дзяўчынай—разьдзяляць радасьці й труднасьці нашага руху наперад.

*Наша задача*: пад кіраўніцтвам Ленінскай Комуністычнай партыі выконваць заветы Ільліча.

*Наша мэта*: усім вялізарным колектывам працоўных правільным, цьвёрдым крокам да соцыялізму.

Вось кароценькая програма нашай часопісі.

Вакол гэтых задач патрэбна згуртавацца ўсяму ЛКСМБ і сялянскай моладзі, якая ўжо стаіць на парозе ўступленьня ў комсамол і жадае шчыра дапамагаць партыі й комсамолу, Савецкай уладзе весьці барацьбу за новую вёску.

Цяпер у наша поле працы ўваходзіць далейшае ўмацаваньне сельскай гаспадаркі, разьвіцьцё прамысловасьці, а разам з гэтым яшчэ большае замацаваньне сувязі між пролетарыятам і сялянствам.

*„Малады Араты“* будзе кіраваць работаю й барацьбою за новую вёску, за шматпольле, за асушку балот, за паляпшэньне пароды свае жывёлы, за аб'яднаньне сялянства ў коопэрацыю.

*„Малады Араты“* будзе дапамагаць сялянскай моладзі ў яе рабоце ў сельсавеце, ў коопэратыве, у комітэце ўзаемадапамогі, у школе і г. д.

*„Малады Араты“* будзе высьвятляць на сваіх старонках жыцьцё й працу сялянскай моладзі. Не малое месца мы адвядзем выхаваньню нашых корэспондэнтаў, якія апісваюць быт, жыцьцё й барацьбу за новую, лепшую й сьветлую вёску.

І так дружна, пад кіраўніцтвам Компартыі да намечаных заданьняў.

**Рэдакцыя „Маладога Аратага“.**



# ЛЕНІНСКАЯ КОМСАМОЛІЯ.

## Што сказаў пленум ЦК ЛКСМБ.

Пленум ЦК ЛКСМБ (нарада ўсіх сяброў і кандыдатаў ЦК, а таксама сэкратароў Акруговых Комітэтаў), які адбыўся ў лютым м-цы, разгледзеў становішча нашага беларускага комсамолу і даў напрамак у дальнейшай рабоце, якая загартуе з нашай організацыі сапраўдны - Ленінскі Комсамол.

За час, які прашоў ад апошняга і да цяперашняга пленуму, наш саюз вытрымаў вялікі экзамен на імя Ленінскага Комсамолу. Мы імя Леніна прынялі не для прыгожага слаўца, што мы нібы-та—Ленінцы, не! а дзеля таго, каб быць за працаю ў рабоце, у адданасьці комуністычнай партыі й справе пролетарскай рэволюцыі быць такімі, якім быў Ленін.

Першаю нашаю спробаю было, у згодзе ўсяго комсамолу, асуджэньне выступаў тав. Троцкага, якія накірованы былі к таму, каб парушыць адзінства і Ленінскую лінію партыі.

Увесь комсамол Беларусі заявіў, што ён пад кіраўніцтвам старой бальшавіцкай гвардыі—вучняў Леніна—будзе заўсёды стаяць на варце інтарэсаў партыі; за самы моцны саюз сялян з рабочымі, таму што толькі пры моцнай сувязі пролетарыяту з сялянствам магчымы хутчэйшыя посьпехі перамогі рэволюцыі. Другім, надзвычайна важным момантам было сапраўднае выкананьне галоўнейшага завета Леніна—гэта практычнае выкананьне задачы павароту да вёскі.

КСМ пад кіраўніцтвам партыі здолеў паленінску разьвязаць гэтыя дзьве задачы, і гэтым яшчэ раз сказаў, што ён памятае тую адпаведнасьць, якую ўзяў на сябе саюз імя Леніна.

За апошніх два з паловай м-цы КСМ яшчэ больш умацаваўся на грамадзянска-політычных вучастках вёскі тым, што кожная комсамольская ячэйка паказала на справе, на колькі сябры КСМ і сялянская моладзь пад кіраўніцтвам комсамолу пасьпешна працуе ў сельсавеце, коопэратыве, комітэтах узаемадапамогі, школах і г. д.

Пашана да комсамолаў у вёсцы, на вачох сялянства многа павялічылася. Аб гэтым нам кажа лічба 1783 комсамольцаў, абраных у сельсаветы, гэта самыя моцныя вастраўкі Савецкае ўлады ў вёсцы.

Комсамол вырас на 2.600 новых сяброў. За гэты час з'організавана 151 ячэйка КСМ на фабрыках, заводах і вёсках. Рост ідзе шпарка. Гэта нам паказвае, што КСМ на вачох моладзі зьяўляецца організацыяй, якая дапамагае будаваць нашу гаспадарку, павялічвае пісьменнасьць-культурнасьць працоўнай Рэспублікі, кожны сьвядомы рабочы й батрацка-бядняцкі юнак, стараецца дапамагчы комсамолу ў выкананьні цяжкіх заданьняў.

### Аб росьце організацыі.

Зразумела, што КСМ і надалей будзе расьці за лік рабочай моладзі (якая ўся павінна быць уцягнута ў шэрагі КСМ), а таксама за лік батракоў, беднякоў і лепшай, больш блізкай да комсамолу часткі серадняков, якія даказалі сваё шчырае жаданьне на справе, працаваць і змагацца ў шэрагах комсамолу за новую вёску.

Новыя вясковыя ячэйкі—вельмі слабенькія; саюз прадоўжвае папаўняцца сьвежымі сіламі,—усё гэта Пленум прыняў пад увагу і ухваліў, што 50 т. т. комсамольцаў, пасланых з горада ў вёску, павінны апраўдаць узложаныя на іх надзеі. Такія пасылкі рабочых комсамольцаў з гораду ў вёску—патрэбна практыкаваць і надалей.

Гэтым мы ўзмацнім пролетарскае кіраўніцтва організацыі й створым нормальныя выхаваўчыя умовы работы ў комсамоле.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Важнейшая задача пастаўлена пленумам—бліжэй да парт'ячэйкі ў вёсцы; пад яе кіраўніцтвам працаваць і перадаваць больш вытрыманых, сьвядомых комсамольцаў-актывістых вёскі ў партыю. Там яны яшчэ больш умацуюць сваю сьвядомасьць адпаведнасьці перад партыяй за сваю штодзенную працу па культурнаму й экономічнаму адраджэньню краіны.

Новыя комсамольскія актывістыя павінны быць падабраны з рабочай, батрацкай і бядняцкай асярэдзіны. Актыўныя юнакі з рабочых, батракоў і беднякоў на справе паказалі, што яны могуць захоўваць і распаўсюджваць пролетарскае кіраўніцтва організацыяй у інтарэсах усяго комсамолу.

### Комсамольскае шэфства.

Яшчэ для большай сувязі з вёскаю Пленум ухваліў, што шэфства гарадзкіх ячэек КСМ над вёскаю павінна ўзмацніцца.

Трэба новым комсамольскім ячэйкам вёскі дапамагчы стаць на ногі. Патрэбна ўзмацніць выхаваўчую работу сярод вясковых комсамольцаў, дапамагчы ім уявіць значэньне комсамолу для партыі й жыцьцё Рэспублікі.

Калі вясковы комсамолец будзе добра знаць сваё назначэньне, то ён яшчэ больш зможа зрабіць для замацаваньня сувязі гораду з вёскаю. Горад дапаможа сваім таварышам-вяскоўцам.

Трэба пачаць рушыць лёд, а там справа закіпіць.

### Комсамолец-актывісты павінен вучыцца.

Нагружаючы сябе рознымі работамі, вясковы актывісты ня мог і ня ведаў, як і чаму вучыцца.

Пленум сказаў, што райпропколектывы, групы чыткі й самастойная падрыхтоўка зьяўляюцца найлепшым спосабам выкаўкі вясковага актывістага.

Трэба вучыцца. Бяз вед нельга выконваць дырэктыў партыі. Гэта патрэбна зразумець кожнаму актыўнаму вясковаму комсамольцу.



Комсомольцы на адпачынку.

### Комсамолец—перадавы гаспадар.

Нашы комсамольскія зьезды парашылі, каб кожны вясковы комсамолец, быў перадавым, прыкладным гаспадаром які павінен культурна апрацоўваць сваю зямлю.

Зараз вядзецца барацьба за „Новую вёсук“. Першае месца ў гэтых шэрагах павінна быць занята комсамольцамі. Патрэбна заўсёды трымаць сувязь з агрономамі, дагаварвацца з ім аб тым, як лепш паставіць сваю гаспадарку, быць сябром сельска-гаспадарчага гуртка і ўсё рабіць панавуковаму, а не па „абы“. У такім разе сяляне будуць браць прыклад з комсамольцаў і пераходзіць да больш карысных форм земляапрацоўкі,

Бяз вед—актывісты роўна бяз рук, а яму-ж патрэбна кіраваць больш адсталымі комсамольцамі, весьці працу сярод сялян.

Здольныя, актыўныя хлопцы павінны папаўняць уласныя веды, бо толькі ў апошнім выпадку яны змогуць хутка й добра, безабмылкова выканаць рашэньні партыйных і комсамольскіх органаў.

### Грамадзянска-палітычная праца.

Тое, што комсамольскія вясковыя ячэйкі ўзмацнілі й пашырылі свой удзел у працы грамадзянскіх організацый—гэта бясспэрэчна.

Але тут ёсьць шэраг ухілаў, якія трэба выправіць.

Першае—гэта жаданьне замяніць комсамольскаю ячэйкаю які-небудзь савецкі ці грамадзянскі орган, другое—часам залішняе камандаваньне вёскаю, замест кіраўніцтва ёю.

Абудва гэтыя ўхілы—вельмі шкодныя, і іх патрэбна як найхутчэй адхіліць.

Большая колькасьць комсамольцаў—грамадзкіх працаўнікоў—патрабуюць ад нас узмацненьня кіраўніцтва імі.

Дзеля гэтага Пленум знашоў патрэбным сазваць ува ўсіх раёнах сходы комсамольцаў—грамадзкіх працаўнікоў—даць ім указаньні ў далейшай рабоце.

Вельмі малое месца ў працы вясковых ячэек—гэта удзел КСМ ў падняцьці вясковай гаспадаркі. Тут прад намі ўстаюць такія заданьні.

1-ае—гэта дапамагчы зямельным установам правесьці землябудаўніцтва гаспадарак; комсамолец павінен агітаваць за пасёлкавую форму землякарыстаньня, як самую выгадную для сялянства; актыўны удзел у зямельнай сэкцыі Сельсавету.

2-ое—дапамагчы ўзмацненьню сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Пытаньні ўцягненьня сялянства ў сябры коопэрацыі зьяўляюцца ўдарнай працай ячэйкі. Неабходна даць падмогу й праявіць ініцыятыву ў організацыі машыннага й міліорацыйнага таварыства.

3-е—праз сельска-гаспадарчыя гурткі праводзіць агітацыю за больш даходнае й культурнае сялянскае гаспадараньне; галоўнае і грунтоўнае—найбольш прыкладаў з мясцовах умоў гаспадаркі. Справа са словам не павінна разыходзіцца.

Вось галоўныя моманты нашага комсамольскага удзелу ў экономічным адраджэньні вёскі.

**Што павінен ведаць кожны комсамолец.**

З вялікаю апаскаю весьці антырэлігійную пропаганду; ня трэба выклікаць аніякіх супярэчнасьцяй у ўзаемаадносінах паміж комсамолам і веруючым сялянствам.

Разам з настаўніцтвам працаваць над падняцьцем культурнага роўня сялянства. Настаўнік павінен быць на баку партыі й комсамолу—вось к чаму імкнецца комсамол у сумеснай рабоце з настаўніцтвам.

Выконваць заветы Ільліча „не камандаваць вескаю", а шляхам сяброўскага падыходу да сялянства ўтварыць працаздольныя абставіны вакол партыі, комсамолу й савецкіх органаў.

Гэта асабліва датычыцца комсамольцаў, якія працуюць у тэй ці іншай грамадзянскай організацыі.

Дапамагаць саўхозу ў яго рабоце. Трэба весьці пропаганду за саўхоз, як за рассаднік культуры наогул і асабліва сельска-гаспадарчай.

Калі яшчэ ня ўсе саўхозы дагэтуль апраўдалі гэта назначэньне, то ў хуткім часе яны павінны стаць вастраўкамі сельска-гаспадарчай культуры.

Адчуваць адпаведнасьць за сваю працу перад партыяй. Абавязкова патрэбна часьцей радзіцца з партыйнаю ячэйкаю й выконваць яе дырэктывы.

Вось галоўнае, што трэба памятаць і праводзіць у жыцьцё.

**Нацыянальныя моманты.**

У гэтай галіне перад вясковым комсамолам зараз стаяць такія пытаньні: з'організаваць гурткі беларусазнаўства, у якіх патрэбна добра вывучваць беларускаю мову й вывучваць родны край.

Народную беларускую мову ведае кожны комсамолец-селянін. Ён-жа павінен ведаць і літаратурную беларускую мову.

Патрэбна павялічыць падпіску на юнацкія газэты й журналы; гэта дапаможа таварышу хутчэй выканаць пастановы свайго саюзу па нацыянальнаму пытаньню. Патрэбна, каб таварышы, якія ведаюць беларускую мову, рабілі даклады, на сходах выказваліся па-беларуску.

**А. Гаруновіч.**



# ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## Партызанскі рух у Заходняй Беларусі.

### Організацыйная пара партызаншчыны ў Заходняй Беларусі.

У першых кроках організацыі партызанаў праходзіў бадай увесь 1921 год. Па ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі організаваліся невялічкія групы пад аб'яднаньнем „Беларускі Хаўрус Вызваленьня Бацькаўшчыны". Мэтай аб'яднаньня была барацьба з польскай окупацыяй за незалежнасьць Беларусі.

Распаўсюджвалася і літаратура: часопіс „Сялянская Доля", розныя адозвы, „Змаганьне" і інш. Лістоўкі да сялян друкаваліся на шапірографах, якіх было ў кожнага начальніка аддзелу. Ужо ў канцы 1921 году ў паўстанчыя атрады было ўцягнута многа тысяч чалавек, з якіх было пабудавана да 100 атрадаў.

Сялянства адносілася да паўстанчай справы ня толькі з зацікаўленасьцю, але і прыхільна. Тут з боку правадыроў партызаншчыны не патрэбна была ніякая агітацыя; найлепшай агітацыяй проціў белай Польшчы былі дзеяньні жандармэрыі, паліцыі, старостаў, школьных інспэктароў і г. д.

У першыя месяцы 1922 году організацыя партызан была ўжо ў поўным росквіце. Мела галоўны штаб у Белавескай пушчы, мела аружжа і была гатова к бою. Яе плянам было захапіць у свае рукі ўсю Заходнюю Беларусь.

Атаманы паўстанцаў, як Скамарох, Чорт і інш., думаючы пачаць барацьбу, палічылі патрэбным раней папярэдзіць аб гэтым польскі ўрад і Лігу Нацый. Словам, яны паступілі паводлуг усіх вайсковых традыцый і этыкі і ад імя ўсіх змагароў за бацькаўшчыну паслалі Пілсудзкаму і Лізе Нацый свой ультыматум.

### Ультыматум паўстанцаў Пілсудзкаму.

„Начальніку Польскай Дзяржавы пану Пілсудзкаму ў Варшаве. Копія старшыне Лігі Нацый у Жэнэве. Ад акружнога атамана беларускіх партызанаў грамадзяніна Гэрмана Скамароха. Чынны консьпіратыўны штаб".

### Ультыматыўныя вымаганьні.

Мы ўпаўнамочаны ад партызанаў і ўсяго сялянства паветаў Беластоцкага, Бельскага, Берaст-Літоўскага, Ваўкавыскага, Пружанскага і др. зьвярнуцца да Вас, пан Пілсудзкі, і праз Вас да ўсяго польскага народу аб прызнаньні нашых ніжэйпісаных вымаганьняў, а наймення:

1. У імя справядлівых чалавечых праў адмовіцца ад прэтэнзій на Беларусь і прызнаць яе правы на самавызначэньне, як нацыі.
2. Неадложна спыніць жорсткія рэпрэсіі ў стасунку да ўсіх беларусаў, а таксама перастаць апячатваць праваслаўныя храмы, арышты сьвяшчэньнікаў, вобыскі, біцьцё палітычных дзеячоў у вашых турмах і прызнаць недатычнасьць да ўсяго беларускага.
3. Неадложна звольніць з турмаў усіх арыштаваных палітычных беларусаў.
4. Неадложна спыніць высяканьне лясоў, а таксама перастаць вывазіць розныя матар'ялы, як машыны, лесапільні, ж.-дарожную маемасьць і іншае.
5. Неадложна прыгатаваць для эвакуацыі польскія вайсковыя часьці, жандарскія атрады, сыскныя аддзелы і паліцыю.
6. Дзяржаўныя ўстановы і іх маемасьць павінны быць поўнасьцю перададзены, а таксама і народныя банкі Беларускага краю, як уласнасьць, Беларускаму народу.
7. Неадложна склікаць мешаную комісію для перадачы ўсіх спраў і рашэньня пільных пытаньняў.

Калі вышэйпісаныя вымаганьні ня будуць прызнаны польскім урадам і польскім народам, а яшчэ больш пойдуць рэпрэсіі, арышты і розныя прасьледваньні на Беларускі народ, то мы за вынікі, якія ні станувца, не адпавядаем.

Мы верым, што даб'ёмся вызваленьня і што сваёй перамогай умацуем наш нацыянальны сьцяг.

Да Вас, Пане Старшыня Лігі Нацый, зьвяртаемася мы, панявoленыя беларусы, і просім не дапусьціць далейшых гвалтаў над намі, мы вымагаем толькі нашай незалежнасьці і нашай свабоды.

Атаман Гарадзеншчыны **Г. Скамарох.**
Вып. аб. Н-ка Штабу палкоўнік (подпіс).
Ад'ютант (подпіс).

30 сакавіка 1922 г.

Па аднаму з гэтых адрэсаў—Пілсудзкаму ультыматум папаў, па другому—у Лігу Нацый не папаў, бо палякі перахвацілі.

## Атаман Муха.

Адным з выдатнейшых атаманаў-паўстанцаў зьяўляецца Муха-Міхальскі. Аб яго спрыце ходзяць у народзе цэлыя легэнды.

Але гэтыя легэнды ня многа розьняцца ад праўдзівасьці. Возьмем, напр., такі факт: 3-га верасьня 1923 г. недалёка ад сяла Пашкаўцы, Ляхавіцкай вол., Баранавіцкага пав. адбыўся чародны напад на вялікі маёнтак нейкага пана. Аб тым, што Муха зробіць напад, было ведама раней. Баранавіцкая паліцыя ў лічбе 40 чал. была выслана ў загрожанае месца, каб не дапусьціць нападу і пры магчымасьці „злапаць“ Муху і яго таварышоў. Аднак, злавіць Муху і яго атрад не ўдалося і не дзеля таго, што Муха не зьявіўся. Муха, а з ім 30 чалавек у назначаны дзень зрабілі напад на той-жа маёнтак і забралі 13 панскіх коняй. Паліцыя бачыла пры гэтым такія зьявішчы: пушчаліся ўверх ракеты, але кім—няведама.

У той-жа час паўстанцы пад Вільняю захапілі ў палон некалькі паліцэйскіх.

Усе газэты ў Польшчы шмат пішуць пра атамана Муху.

Тымчасам Муха здаровы і вясёлы па ўсіх крэсах, як гэта кажуць, „з веткі на ветку скача“ і, здабываючы ўсё большую папулярнасьць, што раз мацнейшы, дзесьці ў Белавежы зьвіў сабе гняздо.

А паліцыя дрэмле ці дарогі пытаецца?! Разбойнік гэта нязвычайны, не дзеля таго, што мае спранжыстую організацыю і быццам выразаў кавалак зямлі паміж савецкай і літоўскай граніцамі, сваймі людзьмі абсадзіў яго, але тым, што толькі сьвісьне—зараз-жа зроблена.

Тое, што вялікі разбойнік, які вырас сярод беларускага сялянства, мае зусім не сялянскую фантазію, забясьпечвае яму яшчэ большы послух сярод жыхароў Аўгустоўскіх Наднёманскіх, Беластоцкіх, Ружанскіх, Белавескіх, Налібоцкіх і Палескіх лясоў; тое, што гуляе з нашымі ўладамі, жартуе з паліцыі, забаўляецца ў джэнтльмэнства, час-ад-часу абедае ў „Warszawiance“ у Вільні,—усё гэта павялічвае яго ўплывы сярод сялянства“.

Расійская белагвардзейская газета „За Свободу“ ад 27-га лістапада 1923 г. піша:

„Муха ня толькі тым страшны, што ён рабуе выключна памешчыкаў, а тым, што сялянства прыхільна адносіцца да яго дзей“.

Муха страшны толькі для багатых паноў і купцоў. Беднаму люду ён памагае: сустрэў на дарозе селяніна на кепскім кані—даў яму грошы на добрага. У другім месцы даў беднай удаве грошы на карову і г. д.“

Да гэтага ўсяго, што пішацца ў газэтах Польскай рэспублікі, нам дадаць нічога ня трэба. Тут нават ніякія комэнтарыі не патрэбны.

**Бядуля.**

## Паднявольным Заходняй Беларусі

Эх, беларуская вёска,
бедная вёска, ня плач!
Няхай п'яная паншчына госкае,
няхай скача крывей імгла.
Ты ня плач,—іх сіла тлее,
ты ўзыходзіш на вольны шлях!
Руньню новай ужо зелянее
Беларусі Заходняй зямля.
Ім вядома, а йшчэ больш пазнаюць
край, дзе толькі адны крыжы.
Гэта край—Беларусь маладая!
Ім ня зьнішчыць яе!
Будзе жыць!
Мы ўзарвем гэту фабрыку сьмерці
на палёх беларускай глушы.
Бедната, сонцу новаму верце!
Беларусь— не за-ду-шыць!
Ня плач ты, роднае поле,
весялейшы кідай перазвон:
Прынясе вызваленьне падпольле,
яно—жыцьцё новых дзён.
Серабрыстаю ноччу паслухай,—
ня плача жыцьцё, а бурліць.
Завые яшчэ завіруха—
вызваленьне роднай зямлі.

* * *

Ў хаце холадна, ў хаце цёмна,
ня жыцьцё, а ігрышча бяды.
Мы й ня жывём,—
а страшаць жыцьцём нас,
Эх! не прападзём,
як у хмарах дым!
Нас мільёны,
Зьмена наша—
партызанскі бор, завод,
Нас мільёны,
нам ня страшны
ажырэлы панскі род!
Пераможам
сілай працы!
Ня стрыножыць
дух юнацкі!
Беларусь ня церпіць пана!
Беларусь—бунтарскі род!
Эх!.. паўстане край забраны,
дзеці працы—наш народ!

* * *

Серабрыстаю ноччу паслухай,—
ня плача жыцьцё, а бурліць!
Эх, завые яшчэ завіруха—
вызваленьне роднай зямлі!

**А. Александровіч.**

# НА СВАЁЙ ГАСПАДАРЦЫ.

## Комсамолец і пасяўная кампанія.

Вясеньняя пасяўная кампанія праводзілася земляробчымі органамі штогодна, а ў надыходзячым годзе яна займае асабліва важнае значэньне. У гэтым годзе пасяўная кампанія ня будзе насіць такі характар, як у мінулыя годы. Раней у час пасяўной кампаніі стараліся павялічыць пасяўную плошчу, здабыць больш земляробчых прылад, і інш.

У сувязі з паляпшэньнем агульных эканомічных умоў, з шырокім разьвіцьцём с.-г. коопэрацыі, правядзеньнем землябудаўніцтва й ростам грамадзянскай зацікаўленасьці сялянства—галоўным сэнсам вясновай с.-г. кампаніі ў бягучым годзе зьяўляецца якаснае паляпшэньне сельскай гаспадаркі.

Сярод шырокіх сялянскіх мас прымячаецца, досыць часта, жаданьне да пераходу на шматпольле, да правядзеньня землябудаўніцтва і, сумесна з агрономам, да перабудаваньня сваёй гаспадаркі.

Дзякуючы гэтым умовам, сёлетняя пасяўная кампанія павінна быць праведзена паўней і глыбей ранейшых.

Для пасьпешнага правядзеньня ўсіх намечаных зем. органамі заходаў неабходзен у гэтым сьвядомы удзел усіх культурных сіл вёскі, а асабліва комсамольскіх ячэек, як з'організованай передавой часткі моладзі.

Комсамольцы і ўся моладзь павінна весьці за сабою ўсё сялянства і аддаваць яму набытыя веды.

А таму перад вясковай ячэйкай ЛКСМБ стаіць задача: грунтоўна падрыхтавацца да пасяўной кампаніі. Моцна зьвязацца з зямельнымі, коопэрацыйнымі і агрономічнымі ўстановамі.

### Што паложана Н. К. Земляробства ў аснову пляну пасяўной кампаніі.

Розныя весткі паказваюць, што ў нас яшчэ і зараз плошча пасеву збожжа большая чым да вайны (1913 г.); бульба, кармавыя травы й лён—гэта найбольш каштоўныя для нас культуры, а плошча занятая імі яшчэ не дасягла да ваеннай. І наша сялянская гаспадарка, як была зярноваю, так і засталася да сягонешняга дня.

Галоўнаю задачай находзячай пасяўной кампаніі органы земляробства Беларусі ставяць—**павялічэньне пасяўной плошчы кармавымі травамі** (канюшыны, вікі, сэрадэлі), пасеў лубіну й лёну.

Гэта таблічка паказвае, якія намечаны Наркамземам зьмены засеву гэтых культур у сёлетнім годзе.

| | Было пасеена ў 1924 г. | трэба пасеяць ў 1925 г. |
|---|---|---|
| Канюшыны . | 37,745 дзес. | 60,300 дзес. |
| Вікі . . . . | 36,908 „ | 51,000 „ |
| Сэрадэлі . . | 3,489 „ | 7,200 „ |
| Лубіну . . . | 30,426 „ | 41,400 „ |
| Лёну . . . | 65,422 „ | 79,000 „ |

1. **Канюшыну** прадназначаецца высяваць не як папала, а ў сыстэме шматпольнага севазвароту; асабліва будзе гэта тычыцца новых пасёлкаў і саўхозаў.

„Далоў трохпольле—будуй шматпольле"—вось лёзунг пасяўной кампаніі. Канюшына ў Беларусі, апроч Мазыршчыны, досыць распаўсюдзілася.

2. **Віка** мае вялікае значэньне для пасеву ў занятым папары на сена ці зялёны корм.

3. **Сэрадэля**—гэта кармовая расьліна, добра расьце па бедных пясчаных глебах. Больш як дзе яе сеюць у Меншчыне, Случчыне й Барысаўшчыне, дзе пасеў яе ў сёлетнім годзе павінен шмат павялічыцца.

4. **Лубін** асабліва пачаў заваёўваць к сабе пашану ў апошнія годы, у межах старой Меншчыны.

Спрос на яго з боку насельніцтва—вялізарны. Для пясчаных глеб, як зялёнае ўгнаеньне, зьяўляецца амаль што адзіным спосабам павялічэньня ўраджайнасьці.

5. Засеў лёну прадпалагаецца павялічыць на 14.000 дзесяцін. На паляпшэньне якасьці лёну зьвернута вялікая увага.

6. Бульба й кораньплоды, як маючыя кармовую значнасьць, павінны дапамагчы разьвіцьцю малочнай гаспадаркі й сьвінаводзтва.

Вось асноўныя пляновыя заданьні Наркамзему на 1925 г. у паасобку па кожнай каштоўнай для умоў Беларусі культуры.

### Ці ёсьць насеньне для вясновых пасеваў.

Для пасьпешнага правядзеньня пляну пасяўной кампаніі уперад за ўсё патрэбен увесь матар'ял на ліцо. У Беларусі насеньня ўлас-

нага вырабу дзеля засеву яравога кліну—хваціць. Насеньня канюшыны, цімафейкі, вікі сэрадэлі, лубіну й караньплодаў, якія патрэбна прывезьці з-за меж Беларусі загатоўчымі комісіямі, Цэнтраземскладам і Белсельсаюзам, прыступлена к куплі ў такіх ліках:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Канюшыны | 30,500 пуд., | на суму | 762,500 р. |
| Цімафейкі | 6,000 „ | „ „ | 60,000 „ |
| Вікі . . | 30,000 „ | „ „ | 54,000 „ |
| Сэрадэлі | 7,000 „ | „ „ | 17,000 „ |
| Лубіну . . | 31,000 „ | „ „ | 37,200 „ |
| Лёну—даўгунца | 15,000 „ | „ „ | 37,500 „ |
| | | Усяго на | 968,700 р. |

### На якіх умовах будзе адпускацца насеньне бяднейшаму насельніцтву.

Урад БССР лічыць неабходным павялічэньне вытворчасьці сельскай гаспадаркі, а таму з свайго боку прымае ўсё магчымае дзеля таго, каб пачаўшыся пераход на шматпольле ня быў сарваны недахопам сямян і каб гэтае насеньне было дастулна купіць селяніну-гаспадару, а часам узяць і ў крэдыт. К жалю, насеньне кармовых траў, а асабліва канюшыны, у гэтым годзе вельмі дарага. Спрос на іх па ўсім нашым Саюзе рэспублік вялізарны.

Па пастанаўленьню Ураду водпуск сямян канюшыны ў Беларусі будзе адпускацца як на с.-г. складах Н. К. З., так і ў с.-г. коопэратывах па вартасьці, якую плацілі й самі (без заработку), а напэўна—пры куплі пудамі—25 р. пуд., пры розьнічнай продажы—26 р. пуд.

Даражэй гэтай цаны ніякія склады й коопэратывы продаць канюшыны ня маюць права.

На іншае насеньне адпускныя цэны пакуль што яшчэ невядомы.

### Бяднейшым будзе крэдыт.

Дзеля бяднейшага насяленьня, і ў першую чаргу дзеля тых сялянскіх гаспадарак, якія пераходзяць ці ў мінулым годзе перашлі на шматпольле, будзе дан крэдыт—праз сельска-гаспадарчыя таварыствы, прычым канюшына будзе адпускацца тэрмінам да 2-х год (на 2 ўраджаі), з выплатаю ў першы год 25%, а ў канцы другога году—астатнія 75 проц.

На такіх умовах насяленьне, бязумоўна бяднейшае, атрымае 7.000 пудоў насеньня канюшыны.

Для іншага насельніцтва будзе давацца крэдыт на пакупку канюшыны да 1 году з выплатаю зразу, пры пакупцы, 1/4 вартасьці насеньня. На такіх умовах маецца адпусьціць 18.000 пуд. канюшыны.

Іншае насеньне—сэрадэля, цімафейка, лубін і лён—таксама будуць адпускацца праз раённыя с.-г. таварыствы.

Для крэдытаваньня насяленьня па ўсёй Беларусі адпушчана 150.000 руб. на доўгі тэрмін крэдыту і 450.000 руб. на кароткі.

Як атрымаць пазыку, куды падаць заяву, можна даведацца ў сваім раённым с.-г. таварыстве крэдыту і ад свайго вучастковага агронома.

### Пераход па шматпольле павінен быць без запынак.

Як відаць з вышэйнапісанага, з боку Ураду й Наркамзему Беларусі, для паступаючай пасяўной кампаніі ўсё зроблена.

Калі селянін ня мае грошай, каб купіць насеньне кармовых траў—атрымае ў крэдыт.

Зараз павінен быць кінуты лёзунг на нашы вёскі: **„Кідай трохполку!"—сей кармовыя травы й пераходзь на правільную шматпольную сыстэму".**

Комсамольскія ячэйкі выступалі ня раз на гэтым фронце барацьбы за пабудоўку новых форм, палепшаных, землякарыстаньня і павінны ўсімі сіламі падхапіць гэты кліч і занесьці ў сялянскія масы.

**Агроном М. Е.**

## Частушкі.

Эх, сьпяваў, гудзеў сасоньнік!
Птушкі весела гулі,
„Малады Араты" сёньня
Нам у вёску прывязьлі.

* *
*

Дзед боб малаціў,
Баба падсявала
Дзед „Аратага" купіў,
Баба прачытала.

* *
*

Разгуляўся лес кудлаты
Поле жытам загуло.
Падпішыся на „Араты"
Комсамольскае сяло.

* *
*

Ну і глянуць вокам лоўка
Ў полі вецер загуляў,
На „Араты" залатоўку
Я ў рэдакцыю паслаў.

**Куртаты.**

# ПА КОМСАМОЛЬСКАЙ БЕЛАРУСІ.

## Па ячэйках Ленінскага комсамолу.

### Комсамолія на мяжы з панамі.

*(в. Луначарская, Валынецкага раёну, Полаччына):*

Луначарская ячэйка ЛКСМБ з'організавалася ў 1924 г.

У першыя дні свайго існаваньня, яна мела толькі 6 асоб, але гэты лік хутка павялічыўся; і зараз ячэйка налічвае 23 комсамольцы, з іх 5 дзяўчын.

Праца ячэйкі з кожным днём шырыцца.

Комсамольцы і некаторыя беспартыйныя працуюць у такіх гуртках: палітычным, прыроднанавучным (бязбожнік) і драматычным.

Адна вялікая перашкода ў працы гэта тая, што комсамольцам прыходзіцца хадзіць і на гурткі, і на сходы за 5-6 вёрст, што адрывае комсамольцаў ад хатняй працы.

Партыйныя ячэйкі: вясковая і пагранічна-вайсковая—дапамагаюць у працы ячэйцы.

Комсамольцамі наладжана некалькі суботнікаў на карысьць вясковай школы.

Такім чынам, на гэтым баку Дзьвіны расьце й працуе комсамол, а на тым баку—стаіць горад Дрыса, у якім толькі ксёндз кожны дзень зьбірае сваіх „авечак" і тлумачыць ім аб пакорнасьці пану.

М. Анісаў.

### Ячэйка ЛКСМБ—ячэйка МОПР-у.

*(Губінская ячэйка, Меншчына.)*

На адным з сваіх агульных сходаў мы ухвалілі: *усім комсамольцам уступіць у рады МОПР'у.*

Сказана—зроблена.

І так мы дапамагаем барацьбітам рэволюцыі.

Іншым ячэйкам трэба таксама зрабіць.

Азаркевіч.

### Вучымся пабеларуску.

*(М-ка Галаўчын, Магілеўскай акругі).*

Наша ячэйка ЛКСМБ організавала беларускі гурток, кіраўніком якога зьяўляецца настаўнік.

Комсамольцы з захапленьнем бяруцца за вывучэньне беларускай мовы.

У хуткім часе працаўнікі сельсавету будуць таксама займацца ў гэтым гуртку.

Краскоўскі.

### Як працуе наша комсамольская ячэйка.

*(в. Целякова, Узьдзенскага р.)*

Яшчэ няма году, як з'організавалася наша ячэйка, але праца ёю зроблена вялікая. Першым чынам, ячэйкаю ўтворана маленькая бібліотэчка й хата-чытальня, якой уперад наша вёска ня мела. Ячэйкаю з'організаваны такія гурткі: політычны, сельскагаспадарчы й драматычны.

Грошы, зробленыя ад пастаноўкі спэктакляў, ідуць на хату-чытальню й бібліотэку. Нядаўна куплена шмат літаратуры. У рэволюцыйныя сьвяты драмгурток наладжвае бясплатныя вечары.

У хаце-чытальні ідуць заняткі гурткоў, і раз альбо два ў тыдзень праводзяцца комсамольцамі чыткі газэт і кніжак. Сяляне вельмі цікавяцца чыткамі й цэлымі грамадамі прыходзяць слухаць

С. Ш.

## Сінявокая мая...

Эх, сястрыца, сінявокая мая!
Дапрадаеш кужаль, шпульку дапрадаеш?
Ад кастрыцы пылу грудзі так смыляць...
— Навівайся, нітка, роўнымі радамі!
Напрадзеш на восем, мала!—дзевяць сьцен!
А старая маці у ніты укіне.
Будзе кужаль гэты ў бёрдах шалясьцець,
Панажы заляскаюць—весялей дзяўчыне...
Вытчаш, вытчаш плацянковыя страі,
Ручнікоў таксама у нітоў дванаццаць...
Кросны, ты і нітка—вось і утраіх...
— Будзеш над ставамі нізенька схіляцца...
Не забудзься, зоранька, ясная мая,
На адну-адзіную выткаць на кашулю,
Бо і мне балюча грудзі тож смыляць,
Тольні я далёка, дык таму ня чуеш...
Апрану кашулю новую тады,
Да цябе, сястрыца, ў госці я прыеду.
Ты пра вёску скажаш, я пра гарады...
Дык калі-ж прыду я, дык калі прыеду?
Ці вясной, ці ў восень, вечарам ці днём...
Лепш у восень, праўда?
Выйдзеш ты у поле...
Загарацца вочы сінія агнём,
Скажаш мне, сястрыца:
— Я у Комсамоле!
Я пазнала добра,—панскі сьвет замоўк,
Галаву ня схіліць вораг нам ніколі!
Новае жыцьцё будуе Комсамол,
А жыцьцё старое, палын,—вон ды з поля!
Гэй, сястрыца, сінявокая мая,
Нам шуміць сасоньнік, і лясы гавораць
Хай, табе ніколі грудзі ня баляць
І ня знаць ніколі пажмы тэй і гора...

Ул. Дубоўка.



# Барацьба за новую вёску.

## Сялянская моладзь і будаўніцтва новай вёскі.

Шэсьць год існаваньня Савецкай улады на Беларусі не маглі не зрабіць значнага адбітку на твары і выглядзе як усяго жыцьця наогул, так і асабліва жыцьця нашае вёскі. Сучасная вёска ня можа йсьці ні ў якае параўнаньне з тым, што яна была ўперад. Але, аднак-жа, трэба сказаць, што ў побыце вёскі шмат ёсьць яшчэ таго, што трэба скарэй і канчаткова выжыць.

Калі мы возьмем сучасную вёску з паверхоўнага выгляду, дык тут вялікіх адзнак у бок руху яе да паляпшэньня свайго мы ня ўбачым. Тут мы знойдзем шмат таго бруду, які пакінуў нам царызм і ў гаспадарчым і ў грамадзянскім жыцьці. У гаспадарчым, жыцьці гэта спадчына мінулага адбіваецца ў тым, што сялянства ніяк ня можа да гэтых часоў прысвоймiць падумкі аб неабходнасьці і карыснасьці для іхнай гаспадаркі палепшаных спосабаў землякарыстаньня, ня цікавяцца ў гэтым напрамку досьледамі навукі, ускладаючы ўсю спадзейнасьць на „ласку боскую“ і г. д.

У грамадзянскіх справах сялянства таксама яшчэ ў значнай сваёй колькасьці трымаецца старога погляду і лічыць, што грамадзянскія справы да яго беспасрэдна як-бы і ня тычацца; яно лічыць, што справы гэтыя павінен вясьці хтосьці другі, якоесь „начальства“. Лічыць, што такая падумка селяніна зьяўляецца чымсьці надзвычайным — ніяк нельга. Прымаючы пад увагу тое, што сялянства на працягу соцень і тысяч год выхоўвалася ў абставінах прыгнёту і недапушчэньня ні да якіх грамадзянскіх спраў, трэба лічыць, што ўніканьне селяніна ад гэтых спраў на першых часох, ёсьць зьявішча зусім зразумелае.

Ці можна гэтае зьявішча лічыць нормальным — гэта ўжо зусім іншае пытаньне, і калі мы яго прад сабой паставім, дык можам даць толькі адмоўны адказ, г. зн. ні з якога боку ня можам прызнаць яго нормальным. Савецкая ўлада ёсьць улада ўсіх працоўных, а ў тым ліку і працоўнага сялянства. Да пабудаваньня жыцьця рабочых і сялян улада беспасрэдна прыцягвае саміх-жа рабочых і ня мае падумкі аб тым, каб магчыма было прарабіць гэтую працу бяз іхнага удзелу, бяз іхнай ініцыятывы і бяз іхнай беспасрэднай зацікаўленасьці.

У напрамку падняцьця гэтай зацікаўленасьці, у напрамку ўцягваньня сялянства ў беспасрэдную працу па гаспадарчым, культурным і грамадзкам будаўніцтве за апошнія часы шмат чаго ўжо зроблена, але шмат чаго яшчэ і засталося рабіць. Сялянства, асабліва старэйшая яго частка, ня можа яшчэ канчаткова скінуць з сябе уплываў мінулага і на'т цяжка падыходзіць да грамадзкіх спраў. Комуністычная партыя і Савецкая ўлада ўсімі магчымасьцямі імкнецца выжыць гэтае, шкоднае для агульнай справы, зьявішча і шукае ў гэтым напрамку тыя грамадзянскія колы на вёсцы, якія маглі-б зрабіцца штурхачамі і праваднікамі ўсіх замераў і мерапрыемстваў па адбудаваньні новай, савецкай вёскі, на якія магчыма было-б абаперціся ў гэтай справе.

Паміж іншымі коламі вясковага грамадзянства — вясковая моладзь павінна займаць у гэтым кірунку першае месца. Не засьмечаная ніякім нахілам старасьветчыны, выхаваная ў абставінах новага вольнага жыцьця і будаўніцтва нашае працоўнае дзяржавы, вясковая моладзь павінна ісьці ўперадзе і вясьці за сабой усю вёску па шляху яе адраджэньня й перабудовы на новай падставе.

Роль моладзі ў будаўніцтве новай вёскі ня можа быць ацэнена нават і прыблізна, — яна можа зрабіць у гэтым напрамку больш, як хто-бы то ні быў іншы, больш ад усякіх пісаньняў, ад усякіх прамоў і г. д.

Справа новага землябудаўніцтва і землякарыстаньня, справа санітарнага і культурнага наладжаньня вёскі, асьвета, коопэрацыя, усе іншыя грамадзкія ўстановы на вёсцы — вось той шлях, па якім вясковая моладзь павінна ісьці і ісьці ня спосабам прамоў і розных тэорэтычных тлумачэньняў, а спосабам уласнага практычнага паказу і прыкладу. Тэорэтычныя тлумачэньні павінны займаць другое месца ў працы; на першы плян трэба высоўваць практыку і ўласны прыклад. Лёзунгам дня для вясковай моладзі павінна зрабіцца: „Моладзь за практычную працу“.

І. Ш.

## Падпішыся на „Араты“.

Невялікая тут страта,
Падпішыся на „Араты“,
На „Араты Малады“,—
Будзе добра заўсягды.
Усё жыцьцё і недахопы
Комсамольская часопісь
Чырвань-шоўкам абаўе,—
Як у люстры адаб‘е.
Зазьвіняць над курнай хатай,
Вёскі цёмнай недахваты,
Комсамольская часопісь
Адаб‘е, жыцьцём ахопіць.
Будзем ведаць, як наўкола
Рацъ,—магутнасьць Комсамолу,
Сее чыстае насеньне
На загонах вызваленьня,
На загонах сьветлай волі,
Дзе пакутаваў даволі
Малады Араты ў полі
Ў час прыгону, паднявольля.
Не вялікая тут страта
Падпішыся на „Араты“,—
На „Араты Малады“,
Не пакаешся ўсягды!

Паўлюк Трус.

## Вёска ідзе наперад.

*(Віркаў, Сьвіслацкі раён, Бабруйшчына).*

Раней нашы сяляне апрача гульні, самагону, „пагуляй і зьеш“—больш нічога ня ведалі, нічым ня цікавіліся. І вось калі тут утварылася ячэйка ЛКСМБ, мы, моладзь, пачалі вучыцца новаму, добраму—нашы бацькі й сёстры зусім перамяніліся. Яны ідуць за намі. Зараз, амаль што кожны вечар наладжваем чыткі газэт, гутаркі, даклады, якімі цікавяцца як малыя, так і старыя. Сяляне любяць комсамольцаў.

Рута-Мята.

## За паўгода.

*(В. Матарова, Сьмілавіцкага раёну).*

Ячэйка організавалася ў верасьні м-цы 1924 г. За гэты кароткі час існаваньня яна заняла значнае месца ў грамадзянскім жыцьці вёскі. Мае сваіх прадстаўнікоў у сельсавеце, комітэце ўзаемадапамогі і ў кооперытыве.

Па ініцыятыве ячэйкі ЛКСМБ адчынена хата-чытальня, пры якой працуюць гурткі: сельска-гаспадарчы і політычны. Павага да ячэйкі павялічваецца. Хата-чытальня кожны вечар перапоўнена моладзьдзю й сялянамі, сярод якіх комсамольцы чытаюць газэты й с.-г. літаратуру.

Туркін.

Ня траць марна часу,—кажуць комсамольцы; і ад першага дню бяруцца за цяжкую, але пачэсную працу.

## Комсамольцы дапамагаюць школцы.

*(В. Лагаўская-Слабада, Сьмілавіцкага р.)*

Нядаўна нашых некалькі хлопцаў уступілі ў Комсамол і ўжо добра працуюць. Два разы ў тыдзень вучацца самі ў школе, памагаюць у працы хаты-чытальні. Ня было ў школцы дроў, і вось яны аднаго разу згаварыліся, пашлі ў лес і выразалі дадзеныя ў школу дровы. Ува ўсякай грамадзкай справе стараюцца быць першымі.

Настаўнік Я. Х.

## Памагаем другім.

*(Стара-Барысаў).*

Кожную суботу некалькі сяброў нашай ячэйкі з газэтамі пад пахай адпраўляюцца ў суседнія вёскі для працы. Ячэйка організавала ў дзьвёх вёсках сельска-гаспадарчыя гурткі, працу тут паставіла на належную вышыню.

У вёсцы маем піонэрскі атрад у ліку 42 вясковых хлапцоў і дзяўчат, які хоць ў дрэнных абставінах жыве, але ўсё такі працуе.

М. Гаеўскі.

І так, гэты моцны маладняк вёскі—самы дружны. У ім знойдзе дапамогу і школка, і суседняя, больш цёмная вёска.

## Застрэльшчык у культуры.

*(Клябчыны, Случчына).*

Надумаліся нашы хлопцы стварыць насьценную газэту; выбралі рэдколегію, але на гэтым і канец, бо ніхто ня ведаў адкуль пачаць і чым кончыць газэту.

Прыехаў з рабтэхнікуму студэнт т. Казёл, які дапамог рэдколегіі і праз некалькі дзён „Варха“ вісела на сьцяне. Назьбіралася хлапцоў да дзяўчат—з усяе вёскі, а „Варха“ і давай ачышчаць вёску ад бруду.

Ужо шмат каго „Варха“ прапусьціла праз сіты свае.

Новага нумару уся вёска чакае з захапленьнем.

Каролік.

## Комсамольцы ў мясцовай уладзе.

*(Доўгавіцкая яч. ЛКСМБ, Калінінщчына.)*

... К 7 школам прымацованы комсамольцы, якія ўваходзячы ў школьную раду, зьяўляюцца вачмі ячэйкі як у школе, так і ў тэй вёсцы, дзе знаходзіцца школа. У праўленьне кооперытыву ўваходзяць пару комсамольцаў. У сельраду й комітэт узаемадапамогі абрана 6 комсамольцаў, з якіх 2 дзяўчыны. Адна комсамолка выбрана ў раённы комітэт.

Праца ў хаце-чытальні вядзецца выключна комсамольцамі.

Комсамол просякае ўва ўсё жыцьцё вёскі і робіцца тым кіраўніком і дарадчыкам, якога вёска патрабуе.

М. Кузьма.

# Без папа.

„У вёсцы Ячонкі ў Лявона Шкурдзюка ахрысьцілі дзіця пановаму, без папа. Старыя бацькі ўжо не пярэчаць гэтаму. Затое ў вёсцы знахаркі шаптухі плявузгаюць, што ў малога вырастуць рогі, капыты й хвост“.

У вёсцы—назваю Ячонкі—
Старым чынам—на дзевяты
Ў Шкурдзюка Лявона жонкі
Сын радзіўся—хоць у сваты!
Цераз тыдзень-два—ня болей,
Як належыцца па таксе,
Шкурдзюкі уласнай воляй
Запісалі сына ў „Загсе“.
І на гэтым дзела стала,
Хоць старая матка ў звычай
Падаўнейшаму чакала,
Што Лявон папа пакліча:
„Ня хрысьціўшы-ж—не гадзіцца:
Трэ й вадзіца, трэ й крапідла,
Бо інакш ня варт радзіцца,—
Як якое-небудзь быдла.
Ведзер пяць патрэбна брагі,
Падсьвінака на салому,
Каб было чаго ад смагі
Пасмактаць таму-другому.
Бо забрэшуць, калі мала,
Хай іх высмакча хвароба!—
Гэтак матка разважала,
Паглядаючы з падлоба...
Дзень-другі... Ніхто ні слова
Пра папа ня кажа старай...
З дзіцем возіцца сынова...
Маці ў хаце ходзіць хмарай...
На чацьверты—ня стрывала—
Вышла ў шэпты да суседкі
І у вечар—засьпявала:
„Што-ж вы думаеце, дзеткі,
Усе па ўсім? Папа ні ў хату?
Хай няхрышчаным дзіцяткам
Узрастае ўровень тату,
Як якое жыдзянятка?
Вось дык сьвет настаў, мой божа!
Ўзялі ўладу недавяркі!“
Не сьцярпеў Лявон і кажа:
„Маці! годзі гатай сваркі!
Вам, бацькі, мяне ня змусіць:
Я к папу ня маю веры,
Бо ён ў кожным слове хлусіць
І праз вокны, і праз дзьверы.
Найважней—працуй да сьвету
Хоць бяз солі, хоць бяз хлеба,
Бо! душа твая за гэта,
Як па масьле, пойдзе ў неба...
Добра сьцеле—мякка сьцеле,
Але цьвёрда надта спаці
На паповінай пасьцелі!..
Разьмяркуй сама ты, маці:
Папрабуй яму папасца!
Ў кіпцюрах сваіх кудлаты
Растрасе цябе, як трасца,—
Дах і комін здыме з хаты!
Чалавека—ня бывае?
Пахаваць прыходзіць жонцы—
Ён бяз літасьці спытае,
Ці рубель зьвініць ў машонцы?
Хай у тое ні крупінкі,
Рук няма за што зацяці
У ў хаце ні скарынкі
Для галоднага дзіцяці—
Аблупі і зад, і перад
Да шаснаццатае скуры,
Бо ўсё роўна гэты верад
Так ня пойдзе на хаўтуры!
А здавала-б, што ўдавіцы
Памагчы ён сам павінен,
Калі верыць у „пракімен“
І другія нябыліцы.
Гэта сьведчыць толькі тое,
Што папу начхаць на бога
І на тое ўсё рабое,
Што ён радзіць для другога...“
Доўга так Лявон тлумачыў,
Мазгавіну рыхліў кніжкай
І усё, што чуў і бачыў,
Клаў у рот старым, як лыжкай...
Так давёў—ляпей ня трэба,
І бацькі сказалі ўголас:
„Калі так—ня трэба неба,
Хай зямля наш поўніць колас!“
З тэй пары у хаце згода,
Пра папа няма гаворкі...
Гэта—розум! Але шкода,
Што шаптухі, як вавёркі,
Скачуць ў вёсцы з пня на мула,
Мелюць ў ступе языкамі:
„Мая кумка—ці ты чула?
У Лявона-ж сын з рагамі!
Проста брыдка за кабету—
Адурнелі бабы, мусіць?
Памялом заразу гэту
Трэба з нашай Беларусі!

**А. Дзяркач.**

# ГОРАД.

## Жыцьцё і праца заводу „энэргія“.

З прыходам Савецкай улады ў Менск, у канцы 1920 г. мэталяапрацоўчай прамысловасьці ня было, апрача некалькіх дробных кустарных майстэрняў. Перад уладаю паўстала задача адбудаваць шэраг заводаў, папаўшых пад апеку разрухі.

У пачатку 1921 г. сярод працаўнікоў Савету Народнай Гаспадаркі зьявілася думка аб заснаваньні, хоць малой сілы, металяапрацоўчага заводу, які-б задавальняў самыя неабходныя патрэбы прамысловасьці, сялянства і арміі.

Такая задача ў той краіне, якая перанесла шмат утрат, была даволі цяжкаю.

СНГ, апрача напалову разбуранай будыніны, нічога ня меў. Прышлося прыбегчы к дапамозе рэквізыцыі й конфіскацыі патрэбных рэчаў, нават у кустароў. І 20 лютага 1921 г. ў першы раз задымілася заводзкая труба, хоць слаба закруціліся калёсы—гэта першае жыцьцё заводу „Энэргія“.

Рабочая сіла была набрана праз Комісарыят Працы прымусовым парадкам.

Першаю працаю заводу было—выраб плугоў і рамонт мясцовых заводаў іншай прамысловасьці.

У красавіку месяцы пачулася цесната ў будыніне, бо перад заводам адчынілася шырокае поле працы. З Масквы прывезьлі некалькі вялікіх станкоў і прэсаў.



З пераходам заводу на гаспадарчы падрахунак прышлося яму на існаваньне сваё паставіць знак пытаньня.

У прэзыдыуме СНГ стаяла пытаньне аб зачыненьні заводу.

Кіраўніцтву заводам, разам з саюзам мэталістых, прышлося выступіць на абарону і нават прышлося дамагацца матар'яльнай дапамогі на пабудоўку новага будынку пад завод.

Тымчасам завод у вытворчай вобласьці пашырыўся. Лік рабочых павялічыўся да 125 асоб, большасьць якіх—досыць кваліфікаваныя працаўнікі.

Для таго, каб паказаць працу і хуткае разьвіцьцё заводу „Энэргія“, можна паказаць, што ў 1921-22 г. было выраблена рэчаў залезных па 45 тысяч руб. У 1922-23 г., пры тым-жа самым ліку рабочых,—на 65 т. р. золатам, а ў 1923-24 г.—на 120 тысяч руб. У 1924-25 г. намечана па програме выпрацаваць на 160 тысяч руб. некаторым заводам і фабрыкам Беларусі прыходзілася зьвяртацца за дапамогай „Энэргіі“, а некаторыя прадпрыемствы абсталяваны выключна працаю заводу „Энэргія“.

У сучасны момант завод вытварае сячкарні, малатарні, дзесяцічныя вагі, гіры і інш...

Ж. Л.

# АПАВЯДАНЬНЕ.

## Заработак.

Як-бы ня верыў,
Абы намераў..

**Крапіва.**

Царкоўны стараста Міхал Шабалдзей глянуў па пустой вуліцы ўправа, глянуў улева, пасьля, не сьпяшаючы, уцягнуў у пачырванеўшы ад холаду нос з вусоў вялікую каплю нечага густога й сьлізкага і сьцебануў сурамцоваю пугаю каня.

— Ну, каб цябе ваўкі ўклалі, воўчае мяса,— раўнуў ён на ўсю вуліцу і яшчэ раз чмыхнуў носам.

Конь страсянуў грываю й пацягнуў цяжкія сані.

— Тпр-рр,—абазваўся цераз паўхвіліны Міхал.

Конь стаў. Міхал улажыў пальцы рук у рукавы і прысеў на край саней.

— На, Міхал, сып,—сказаў Зьмітрок Шапавал, цягнучы паўасьміну жыта.

Міхал Шабалдзей усыпаў жыта ў мяшок і зноў сьцебануў каня. Конь зноў падцягнуў сані на некалькі крокаў.

— Ну як, Міхал,—сказаў весела бацюшка, выходзячы ў сіняй рызе й з крыжам у руках з суседняга двара.

— Дзякуй богу, даюць, ужо ледзьве конь плішчыць,—бойка адказаў Міхал.

— Ну й добра,—сказаў бацюшка й паблытаў у суседнюю хату чытаць малітву.

А на вуліцы, каля Міхала з саньмі пачаў зьбірацца гурт. Ішоў з гумна Сідор Апенька ды стаў пагаварыць з Міхалом. За Сідорам падышоў закурыць чужой табакі Паўлюк Храпа. А к гэтым падышло яшчэ некалькі, і хутка за народам ня відаць стала ні Міхала, ні саней, ні каня. Міхал з гэнэральскім выглядам узьлез на сані дый пад'яжджаў паволі па вуліцы, усьлед за бацюшкам, які шпарка перабягаў з хаты ў хату. А пасьля папрыбягала аднекуль малых хлапчукоў і стала весела на вуліцы.

— А браткі-ж,—шапталіся ззаду хлапчукі:— —чаму гэта ў дзядзькі Міхала Шабалдзея вельмі вусы мокрыя?!




— А чорт яго ведае,—адказвалі другія,— мусіць гэта ў яго з носу.

— Дык-жа на дварэ мароз, не павінна цячы,—шуцілі трэція.

— Ха-ха-ха-ха,—заліваліся ўсе гуртам вясёлым рогатам і падыходзілі бліжэй.

— Дзядзька, чаму ў цябе на губе мокра?— запытаўся з рогатам у Міхала Грышка Марылін, самы прахвост і зладзюга на ўсю вёску.

— Няхай у цябе ў калошах будзе мокра,— адказаў сярдзіта Міхал і зноў сьцебануў каня. Мужчыны й хлопцы падышлі ўсьлед за санямі.

— Чаго-ж ты злуеш?—сказаў Міхалу Сідор,—важнае дзела—малы шчанюк дзяўкнуў, а ён ужо злуе.

— Чаго вы работы якое ня робіце, ды цягаецеся за мною?— абазваўся сярдзіта Міхал.

Мужчыны зарагаталі.

— Цьфу,—плюнуў Міхал,— усё роўна, як блазны якія.

— Ну, Міхал саўсім ужо ганаровым стаў,—сказаў Сідор,—як пахадзіў паўгода каля пана, дык і гаварыць не даецца.

— А што, браткі, думаеце?—адказаў Паўлюк Храпа:—як яшчэ ён паходзіць каля папа месяцаў два, дык гатоў за дыякана выйсьці:

— А я-яй, а гвалт, ха-ха-ха-ха!—гранулі ўсе рогатам:—от будзе дыякан!..

— Пашлі к... ядронай мацеры!—раўнуў Міхал і шалыгнуў путальнём каню па хвасьце. Конь пацягнуў сані, а мужчыны з рогатам засталіся.

— От будзе дыякан!.. ха-ха-ха-ха!..

— А голас, голас! ценарцом будзе кандакі высьпеўваць!..

— Ён тады яшчэ гатоў, падла, папа абярнуць, калі шмарганецца аб яго!..

Хлапчукі пастаялі каля мужчын, ды пасьля зноў пабеглі па вуліцы, прыглядаючыся, хто што выносіць для бацюшкі. Хутка прымецілі яны, што ўдава Аўдоцьця вынесла цэлую кілбасу. Міхал Шабалдзей весела ўзяў кілбасу,

патрос у руцэ, пасьля выцягнуў з саломы на санях вялікую торбу і сунуў туды кілбасу.

— Вось назьбіраў, халера, цэлую торбу кілбас ды сала,—загаварылі хлопцы.

— Чаму ты, цётка, кілбасу папу даеш, няхай-бы сама зьела, а то цэлы век посьціш?—запытаў Грышка.

— Цьфу, каб на вас халера, канцамолы чортавы,—адказала Аўдоцьця,—бацюшка за кілбасу богу моліцца, малітву ў хаце чытае.

— А без кілбасы ня чытае?

— А няхай ужо нечага над вамі псалтыр пачытаюць,—адказвала Аўдоцьця й шмыганула скоранька ў двор.

— Няма на вас лому якога,—забубніў Міхал Шабалдзей, седзячы на санях:—гэта жартачкі, бацюшка парафію з малітваю аб'яжджае, а яны зубы вышчараюць. А каб вы папруцянелі, смаркачы аблезлыя!..

— Дзядзька, ня злуй!

— Ідзі, дзядзька, пакоўзаемся каля калодзезя!

— Няхай ты бокам коўзайся,—прабубніў Міхал, хаваючы новую кілбасу ў торбу.

Грышка падкраўся к саням і глянуў у разьвязаную торбу. Аж сьліна ў яго пацякла.

— От, каб яго растрыбушыла,—падумаў ен;—пройдзе падла-гультаіна з крыжам па вуліцы, дый мае на цэлы год. А гэта малацімалаці з бацькам, ды заўсёды цыбулю з квасам еш.

На вуліцы пачуўся крык і сьвіст. Грышка азірнуўся і ўбачыў, што хлапчукі гналі па вуліцы паповага сабаку Лыску. Лыска бег, хвост падтуліўшы, а хлопцы аж енчылі з рогату, бягучы ззаду.

— Гэта-ж Лыска бацюшкаў,—крыкнуў Міхал, саскочыўшы з саней. Ах, вы, прахвосты, сукіны сыны. На-цю-на, каб ты здох!

Хлопцы сталі, а Лыска падбег да саней і лізнуў у твар знаёмага Міхала Шабалдзея.

— О, так, о,—усьміхнуўся Міхал,—бегаеш, падла, па чужых дварох; няма, каб пільнаваўся сваіх.

— Чаго ты круцішся, каб на цябе дохлая,—дадаў Міхал, угледзеўшы, што Лыска нешта вакол саней увіхаецца.

— Хлопцы,—зашаптаў Грышка ў кучы,—Лыска бацюшкавы кілбасы зьнюхаў. От, каб як гэта дзядзьку Міхала адазваць на момант ад воза.

— Дзядзька Міхал,—сказаў ён моцна,—ідзеце закурэце, у мяне вельмі бесарабчык добры, я ў бацькі ўзяў трохі.

— Ка'аш добры?—працягнуў Міхал.

— Добры. Такі моцны, што мой бацька калі закурыць, дык ува ўсіх, хто нюхае дым, аж язык у гэтае ўцягвае.

— Ну?!

— Яй права.

— Ну, Лыска, сьцеражы воза,—сказаў Міхал, пагладзіўшы Лыску па шыі.

Лыска падскочыў вышэй Міхала, а Міхал, ускінуўшы каню на сьпіну лейцы, падышоў к хлопцам.

Лыска, адчуўшы сябе гаспадаром, гоцнуў на воз, упіліўся зубамі ў торбу з кілбасамі ды звалок яе на сьнег. Некалькі кускоў сала вывалілася на зямлю, а торбу Лыска павалок у зубах па сьнягу. Па дарозе яшчэ некалькі кілбас вывалілася, і з астаткамі Лыска ўва весь дух драпануў па вуліцы.

Бацюшка праз вакно з хаты ўгледзеў сабачыя справы каля саней і ня кончыўшы малітвы выскачыў на вуліцу. Міхал сама што ўсмак зацягнуўся моцнаю табакаю і аж павесялеў.

— Міхал!—крыкнуў бацюшка, выскачыўшы на вуліцу,—чаго ты глядзіш!

— Што?—абазваўся перапалоханы Міхал.

— Вунь, бачыш!?

— Міхал глянуў, аж абамлеў. Далёка ўжо ад саней, падтуліўшы хвост, пёр Лыска з торбаю ў зубах. За ім бегла яшчэ некалькі сабак і нават яго рыжая сучка. А ззаду маршыравала некалькі сьвіней, выцягнуўшы лычы.

Пакуль Міхал агледзеўся, бацюшка, як стаяў у аблачэньні з крыжам у руках, кінуўся ўва весь дух за Лыскам адбіраць кілбасы. Міхал шмыгануў усьлед. На вуліцу навыбягала людзей. Падняўся рогат і крык...

Лыска, дабегшы да ваколіцы, драпануў на агароды. Бацюшка вярнуўся назад к возу, сарваў са злосьці з сябе рызу, кінуў на воз і аблаяў Міхала.

— За што-ж вы, бацюшка, лаецеся?

— А няхай цябе пяруны, гэтакі заработак,—гукнуў бацюшка,—маліўся, маліўся цэлы дзень дый хвост сабачы вымаліў. Няма рахунку больш хадзіць, згарыць яго няхай!..

І бацюшка ўзабраўся на воз, шалыгнуў ляйчынаю каню па задніх нагах і паехаў дадому, ня кончыўшы малітвы.

Міхал Шабалдзей стаяў пасярод вуліцы, чмыхаў носам ды, апусьціўшы вочы, слухаў, як над ім рагатала громада людзей.

— Ну, можа за дыякана хутка будзеш высьвенчвацца?—пыталі ў яго.

— Згарыць яно няхай і з дыяканствам і з стараствам. Я больш царкоўны ня прычэтнік!

**Сусед-вясёлы**

## Зьмест.






Рэдактары: Гаруновіч. Александровіч.

1-я Дзяр. друк. Зак. № 2564—4000. Галоўлітбел. № 8181.

# Насьценная газэта ў вёсцы.

Насьценная газэта пачынае разьвівацца ў апошнія два гады, а асабліва разьвіцьцё прыкмячаецца ў самы апошні час.

Спачатку гэта разьвіцьцё прыкмячалася ў горадзе, цяпер паступова пачынае займаць належнае месца ў вёсцы і нават даганяе горад.

Але ўсё такі па вёсках насьценных газэт яшчэ мала. Ёсьць такія раёны, дзе маецца толькі адна газэта, а трэба імкнуцца, каб кожны сельсавет меў сваю насьценную газэту.

Як адзначыў XIII-ы зьезд Комуністычнай партыі, насьценная газэта ў вёсцы мае вялікае значэньне, як адна з лепшых формаў агітацыі і пропаганды.

Трэба зьвярнуць на гэта належную увагу і паставіць сабе заданьнем—больш насьценных газэт!

### Характар насьценнай газэты.

Насьценная газэта, перш за усё—мясцовая газэта; таго ці іншага раёну, сельсавету; яна павінна мець мясцовы характар у сваім зьмесьце.
газэту зьмяшчаць корэспондэнцыі немясцовага характару, тады яна не дасягне свае мэты, чытач да яе ня будзе прыліпаць. Насьценная газэта добрая толькі тады, калі яна прасякнута тутэйшым жыцьцём, калі яна піша аб тым, што блізка і знаёма вясковаму чытачу.

Мясцовы характар газэты—зьяўляецца яе посьпехам.

Як разумець мясцовы характар насьценнай газэты? Гэта ня знача, што ў ёй патрэбна высьвятляць толькі пытаньні тае мясьціны, у якой яна знаходзіцца; можна пісаць і аб агульных пытаньнях, але пісаць на падставе знаёмага ўсім матар'ялу. Напрыклад, праводзіцца якая-небудзь кампанія, то яе трэба высьвятліць з пункту погляду мясцовых інтарэсаў. Усякі цікавы факт або зьявішча ў гэтай мясьцовасьці павінен цаніцца грамадзянскай меркай, з пункту погляду ўсяго сялянства, усяе вёскі, усяе народнай гаспадаркі, усяе Савецкае дзяржавы. Напрыклад, у той ці іншай вёсцы хто-небудзь узбагаціў сваю гаспадарку з дапамогаю шматпольля ці другім шляхам,—такі выпадак добра высьветліць у газэце, але трэба даць селяніну магчымасьць зразумець, якое значэньне гэты факт мае ў інтарэсах сельскае гаспадаркі. Пасьля гэтакага выпадку можна апісаць вартасьць шматпольля ў справе паляпшэньня сялянскага становішча.

### Зьмест і аддзелы газэты.

Перш за ўсё, ці трэба зьмяшчаць у газэце інформацыю з політыкі? Ці патрэбна пісаць аб важных здарэньнях замежнай і ўнутранай політыкі СССР?—Так, патрэбна. Наша вёска яшчэ вельмі мала мае друкованых газэт, а значыць, вельмі мала чытае аб політыцы і жыве ў такіх выпадках больш слухамі. Насьценная газэта павінна замяніць частку друкованай. Гэта, аднак, ня значыць, што вы возьмеце апошні нумар „Савецкай Беларусі", перапішаце тэлеграму й баста. Такі мэтод будзе не зразумелым дзеля селяніна. А як быць?—Патрэбна на падставе газэтных паведамленьняў за 1-2 тыдні скласьці кароценькі агляд, ці сводку і напісаць, што, напрыклад, робіцца ў Нямеччыне, Францыі і ў Заходняй Беларусі і г. д. Можна таксама даваць матар'ял аб важнейшых політычных здарэньнях у асяродку нашае краіны аб розных экономічных фактах, аб нашых дасягненьнях на розных фабрыках. Аднак, захапляцца політыкай і займаць ёю шмат месца ў газэце—не практыкуецца. Патрэбна даць толькі самае галоўнае. Зараз некалькі слоў аб перадавіцы газэты. Ясна, патрэбна апасацца тае перадавіцы, якая можа быць зьмешчана з аднолькавым посьпехам у любой другой газэце. Уявім сабе, у нашай вёсцы здарыўся цікавы выпадак, напрыклад, якаясь знахарка справіла на той сьвет хворага, і аб гэтым гаворыць уся ваколіца. У зьвязку з гэтым, можна напісаць перадвіцу, аб шкоднасьці знахарства. Перадавіца павінна быць пабудована на мясцовых фактах. Яе неабходна пісаць сьцісла. Вясковы чытач, у большасьці няпісьмены, доўгіх допісаў чытаць не захоча. Патрэбна выразіць думку сваю, як найкарацей.

Нельга, бязумоўна, указваць, якія аддзелы абавязкова павінны быць у кожным нумары насьценнай газэты: мы ня хочам тварыць шаблённыя газэты. Назавем некалькі аддзелаў толькі для прыкладу. Разумеецца, што ня ўсе аддзелы абавязкова павінны быць у кожным нумары.

Неабходна пісаць аб рабоце сельсавету, комітэту узаемадапамогі, каб прабудзіць цікавасьць у сялян да гэтых устаноў, узмацніць сувязь з імі. Такі матар'ял можна, час ад часу, выдзяляць у аддзел „Савецкае будаўніцтва". Патрэбен і такі аддзел, які высьвятляе жыцьцё партыі, комсамолу, піонэраў і іншых організацый, вядомага нам раёну, ці сельсавету. Потым, пытаньні аб коопэратыве, асьвеце, аб быце часам можна злучыць у вадзін аддзел под назваю „Вясковае жыцьцё", але таксама можна высунуць аддзелы:—коопэрацыя, асьвета, і інш. Асноўным аддзелам у вясковай насьценнай газэце павінен быць аддзел *„Сельскай гаспадаркі"*. Яго патрэбна будаваць на дасягненьнях і становішчы сельскае гаспадаркі данай мясцовасьці. Калі на старонцы насьценгаэзты расказаць, чаго той ці іншы селянін дабіўся, дзякуючы таму ці іншаму спосабу,—то такі прыклад селяніну будзе шмат цікавей лекцыі.

Трэба з'організаваць аддзел *„Гутаркі Агронома"*, толькі з таею умоваю, каб гэтыя гутаркі прыстасованы былі да належнай мясцовасьці.

Няменш патрэбна зьмяшчаць парады доктара, вэтэрынара, асабліва, калі ў вёсцы загуляла якаянебудзь заразная хвароба. Дзеля гэтага, рэдакцыі неабходна трымаць цесную сувязь з доктарам, агрономам і вэтэрынарам.

Пачэснае месца ў насьценнай газэце займаюць пытаньні, *„барацьба за новую вёску"*. Пажадана таксама высьвятляць судовыя процэсы, дзе выдзяляюцца адмоўныя бакі вясковага жыцьця. Аб процэсах, з шырокім грамадзянскім значэньнем для гэтага раёну, абавязкова патрэбна пісаць, даючы жывую й цікавую карцінку суда.

Аддзел *„Запытаньняў і адказаў"* павінен таксама быць. Яго выдаваць трэба ў згодзе з хатаючытальняю. Патрэбна гэты аддзел паставіць так, каб селянін змог атрымаць адказ на ўсе яго запытаньні,—як па сельскай гаспадарцы, так і па юрыдычных справах. Я не хочу сказаць, каб усе вышэйпамянёныя аддзелы зьмяшчаліся ў кожным нумары. Не, разьбіваньне на аддзелы можна мяняць, толькі ня часта. Патрэбна, каб чытач прывык к пэўным аддзелам, ведаў, дзе іх знайсьці ў газэце.

*(Працяг будзе).*